# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Аўторак, 30 жніўня 1994 года | № 91 (10791) | Цана 20 руб.


## НОВЫЯ НАЗНАЧЭННІ – ЗНАЁМЫЯ АСОБЫ

Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праведзены новыя назначэнні ў Кабінеце Міністраў. Васіль Стражаў стаў міністрам адукацыі і навукі. У былым урадзе ён займаў пасаду намесніка міністра адукацыі. Пасаду міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі заняў Іван Кенік. Ён і раней займаўся гэтымі праблемамі, але толькі ў рангу віцэ-прэм"ера. Уладзімір Заламай назначаны міністрам па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. За ім таксама захавана былое кола абавязкаў з той розніцай, што раней яго пасада называлася “намеснік Старшыні Савета Міністраў — урадавы сакратар па справах СНД”.

■ Тэлеэфір

## ТАМ ЖА, У ТОЙ ЖА ЧАС

На чарговую сустрэчу з грамадзянамі рэспублікі ў прамым тэлеэфіры Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выйдзе, як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, 31 жніўня.

Прамы эфір адбудзецца ў той жа час, што і ў першы раз, адразу пасля выпуску вячэрняй інфармацыйнай праграмы “Панарама”.

*БЕЛІНФАРМ.*



ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## ВЫХАД З КРЫЗІСУ — СПРАВА ЎЛАДЫ І РОЗУМУ

Праграму выхаду рэспублікі з крызісу прадставіла навукова-вытворчая асацыяцыя «Эконінвест» на праведзеным у Мінску аўтарытэтным сходзе кіраўнікоў гаспадарчых і прадпрымальніцкіх саюзаў Беларусі. На канферэнцыі прысутнічалі таксама прадстаўнікі прафсаюзаў і палітычных партый, службовыя асобы з Адміністрацыі Прэзідэнта.

Старшыня асацыяцыі Яўген Доўтель, які прадстаўляе новую праграму, заявіў, што асноўны яе прынцып — міратворчы. Выпрацавана яна на аснове ведання эканамічных законаў і ўзаемадзеяння іх з аб"ектыўнымі псіхалагічнымі асаблівасцямі чалавечага ўспрымання, якое становіцца актыўным пры ўмове выгады ў перспектыве. Галоўнае — даць магчымасць людзям палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Стварэнне такога метаду і ёсць галоўная мэта праграмы.

Спецыялісты «Эконінвеста» прапануюць зрабіць галоўным матэрыяльным стымулам форму долевай уласнасці прадпрыемства яго работнікамі. Гэта стане адначасова матывацыяй прадукцыйнасці працы і выхаваннем матэрыяльнай адказнасці ў працоўных. Акрамя гэтага, прапануецца вызваліць прадпрыемства як эканамічную адзінку ад вялікай колькасці падаткаў, якія разбуральна дзейнічаюць на аднаўленчы механізм вытворчасці. У падаткаабкладанні, лічаць аўтары, галоўным неабходна пакінуць падатак, які рэгулюе рыначныя механізмы ў любой цывілізаванай краіне, — падатак на ўласнасць.

Канцэпцыя асацыяцыі «Эконінвест» існуе з 1989 года і прапаноўвалася на разгляд папярэднім уладам. Аднак да яе ажыццяўлення пакуль не даходзілі рукі. Яўген Доўтель упэўнены, што эканамічнымі аднаўленчымі працэсамі неабходна займацца незалежна ад працэсаў палітычных. Упэўнены ён і ў тым, што Беларусь можна вывесці з крызісу ў самы бліжэйшы час.

Падрабязнае абмеркаванне «Першачарговых мер па пераадоленню крызісных з"яў" /так называецца праграма/ плануецца на асамблеі дзелавых колаў Беларусі, якая адбудзецца ў пачатку верасня і ўключыць шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных абмеркаванню і прапагандзе новай канцэпцыі на самых розных узроўнях бізнесу і ўлады. Як сказаў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Уладзімір Карагін, які прысутнічаў на канферэнцыі, канцэпцыя «Эконінвеста» вартая ўкаранення, таму што з"яўляецца эканомікай разважнага сэнсу і праверана на вопыце ўжо сотні беларускіх прадпрыемстваў.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Жнівеньскія нарады настаўнікаў

## ЭКАНОМІЯ НА ШКОЛЕ АДГУКНЕЦЦА БЕЗДУХОЎНАСЦЮ

У фае гарадскога Стаўбцоўскага Дома культуры экспанавалася выстава, на якой многія з прысутных настаўнікаў маглі бачыць работы сваіх выхаванцаў, а на сцэне выступілі юныя артысты мастацкай самадзейнасці. Дарэчы, за 4 гадзіны ўдзельнікі канферэнцыі глыбока прааналізавалі вынікі зробленага за мінулы год, вызначылі праблемы, якія неабходна вырашыць настаўніцтву ў новым навучальным годзе. Творчы, дзелавы і канкрэтны характар рабоце нарады надаў невялікі даклад загадчыка аддзела адукацыі райвыканкома І.І.Камароўскага. Работа лепшых школ знята на відэаплёнку і была паказана на канферэнцыі. Такая дэманстрацыя ніколькі не шкодзіла атмасферы ўзнёсласці і ўрачыстасці. Прыемна было назіраць, як удзельнікі канферэнцыі цёпла паціскалі руку тым, хто трапіў у відэакадр. А будзе такіх фільмаў яшчэ больш. Адзін з іх нарodзіцца ў Літвенскай школе. Адкуль такая ўпэўненасць? Яе дырэктар С.Цітовіч запрасіў настаўнікаў раёна на адкрыты Дзень школы, які мяркуецца правесці ў пачатку кастрычніка. Як адзначылі работнікі аддзела адукацыі, у гэтай навучальнай установе творчы педагагічны калектыў. Ды ці толькі тут. Свае майстэрства педагогі павышалі ў творчых клубах і лабараторыях, метадычных аб"яднаннях і ініцыятыўных групах, цэнтрах метадычных пошукаў, праблемных групах. У раёне стала традыцыяй праводзіць творчыя сустрэчы педагагічных калектываў, дзе настаўнікі маюць магчымасць найлепшым чынам паказаць сябе і сваіх выхаванцаў, дзе завязваецца моцнае педагагічнае сяброўства, супрацоўніцтва паміж калектывамі. У раёне актыўна праходзяць творчыя справаздачы школ. Педагагічны калектыў СШ № 3 райцэнтра трымаў справаздачу па праблемах дыферэнцыяцыі навучальна-выхаваўчага працэсу, калектыў СШ № 1 — па ўліку псіхолага-педагагічных асаблівасцей школьнікаў. Адраджэнне нацыянальных традыцый паказала Слабодская школа. Праведзены Дзень педагагічнага майстэрства ў дзіцячым садзе № 5 г.Стоўбцы. Запланавана арганізаваць творчыя справаздачы педагагічных і вучнёўскіх калектываў Ніўнянскай пачатковай школы, Рубяжэвіцкай сярэдняй – па выніках арганізацыі клубнай работы з дзецьмі, Шашкоўскай — па арганізацыі саюза “Школа—бацькі—грамадскасць”. Можна назваць і іншыя прыклады, калі настаўніцтва не абмяжоўваецца рамкамі толькі сваёй установы, а шчыра дзеліцца з калегамі сваімі здабыткамі. Тут робяць усё, каб кожная крупіначка вопыту не згубілася ў нашай шэрай паўсядзённасці. Сёння ад кожнага спецыяліста, у тым ліку і ад спецыяліста-педагога, патрабуецца не проста добрасумленнае выкананне службовых абавязкаў, а творчы падыход да даручанай справы. Карацей кажучы, грамадству патрэбен такі спецыяліст-педагог, які зможа навучыць сваіх выхаванцаў па-новаму думаць і дзейнічаць, здольны па-новаму арганізаваць працэс навучання і выхавання. У Стаўбцоўскім раёне ўмела працуюць з кадрамі. Ці ж не аб гэтым засведчыў і той факт, што з 35 выпускнікоў вучылішчаў і вышэйшых навучальных устаноў, якія прыехалі сюды пачынаць свой працоўны шлях, 31 — мясцовыя. На канферэнцыі маладым спецыялістам уручылі гваздзікі, сувеніры, павіншавалі з першым у іх жыцці новым навучальным годам. Верыцца, што яны свае сэрцы аддадуць дзецям.

Шмат цікавага можна расказаць і пра іншыя кірункі ў дзейнасці школ. Калектыў дзіцячага сада № 6 стане школай фізічнага выхавання, а дзіцячы сад № 4 — цэнтрам эстэтычнага выхавання дашкольнікаў. Аталезская СШ працуе над стварэннем школы этыкету, а Засульская СШ — над праблемай арганізацыі каларыйнага і амаль бясплатнага харчавання вучняў. Кнотаўшчынская базавая школа набыла багаты вопыт па працоўнаму навучанню. Тут вырашчана адкрыцць Дом рамёстваў. Над стварэннем аўтарскай праграмы арганізацыі пазакласнай і пазашкольнай работы працуюць педагогі Навасвержанскай СШ. Калі б дазваляла газетная плошча, з задавальненнем расказаў бы пра вечары-партрэты настаўнікаў, класаў, гумарыстычныя гасцёўні, клубы сямейных сустрэч, старшакласнікаў, работу музычных салонаў, клубы інтэлектуалаў і многае іншае, што надзейна прапісалася на Стаўбцоўшчыне.

На канферэнцыі засяроджвалася ўвага на паляпшэнні работы па стварэнню нацыянальнай школы, адраджэнню беларускай культуры, народных звычаяў і традыцый, абуджэнню цікавасці да гісторыі роднага краю. У многіх школах адкрыты этнаграфічныя пакоі, куткі роднай культуры, назапашаны багаты матэрыял па правядзенню фальклорных святаў. Цікава праходзяць тыдні і дэкады беларускай культуры, сустрэчы з мясцовымі паэтамі, літаратурныя гасцёўні, батлеечныя спектаклі. З такімі формамі работы можна пазнаёміцца ў Горкаўскай, Слабодскай, Старынскай, Рачавіцкай, Шашкоўскай, Засульскай школах. Сёлета ўпершыню ў раёне праведзена алімпіяда вучняў 4-х класаў па беларускай і рускай мовах, матэматыцы. Пераможцамі сталі вучні гарадскіх школ, Дзераўнянскай, Вішнявецкай, Старасвержанскай сельскіх.

А цяпер крыху аб тым, што прагучала з трывогай. Пакуль ніхто канкрэтна не можа сказаць, калі школы будуць забяспечаны палівам, калі паявяцца сродкі на абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў. Больш таго: настаўнікі са спазненнем атрымліваюць зарплату, а жывуць жа яны толькі на яе. Адным словам, эканомія на школе адгукнецца бездухоўнасцю новых пакаленняў. Яна ўжо ў многіх месцах ціхкае горам-бядою: выпускнікі не могуць уладкавацца на працу, стыпендыя студэнта, калі вам пашанцавала ім стаць, пераводзіць маладога чалавека ў ранг жабрака. Бацькавай зарплаты не хапае на тое, каб падрыхтаваць сына-першакласніка да школы. Такі пералік можна працягваць... Куды ідзём?

*Уладзімір КОБРЫН, спец.кар. “Мінскай праўды”.*

Жыве ў Плешчаніцах (Лагойскі раён) фермер Панкрат Панкратавіч Брынчук — працавіты, улюбёны ў сваю справу чалавек. У яго 25 гектараў зямлі, на якой ён вырошчвае жыта, ячмень, бульбу, буракі. Ёсць і ўся неабходная тэхніка — камбайн, трактар, пагрузчык.

НА ЗДЫМКУ: **П.П.Брынчук** з унучкамі Нэлай і Леначкай.

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*

■ Паслухаем спецыяліста

## ДАІСЯ, КАРОЎКА, ЗДАРОВЫМ МАЛАКОМ

**— Ходзяць чуткі, што ядзім мы чорт ведае што, а малаком наогул атручваемся. Маўляў, у каровак і лейкоз, і туберкулёз, цэлы букет захворванняў, якія і для чалавека не праходзяць бясследна. Наколькі гэта адпавядае ісціне?**

Пытанне — **А.І.НАСЕВІЧУ**, дырэктару абласной ветлабараторыі.

— Так, дойны статак хварэе. І гэта не раптоўная ўспышка захворванняў, выкліканых інфекцыяй. Ветурачам ва ўсім свеце яны вядомыя даўно. І змагаемся мы з імі, як і ўсюды, мэтанакіравана, планамерна.

Напрыклад, інфіцыраванасць дойнага статка ў грамадскім сектары ў вобласці складала 3,6 працэнта. Пры паўторнай праверцы праз паўгода — ужо 2,6 працэнта. Так што “ваюем” і дасягаем поспеху. Усе захварэўшыя каровы выдаляюцца са статка. Праводзіцца комплекс мерапрыемстваў па недапушчэнню аналагічных выпадкаў.

**— А тым часам малако ад захварэўшых лейкозам кароў трапляе спажыўцам?**

— Я не сказаў бы. Па-першае, жорсткі кантроль за дойным статкам выключае такую магчымасць. Па-другое, нідзе ў свеце не даказана, што лейкоз перадаецца ад жывёлы чалавеку.

Зусім іншая справа — туберкулёз. Гэтае інфекцыйнае захворванне перадаецца ад жывёлы чалавеку і наадварот. Людзі, якія хварэюць адкрытай формай туберкулёзу, не дапускаюцца да работы з жывёлай. Дойны статак мы дэталёва правяраем на наяўнасць туберкулёзу. Былі невялікія ўспышкі гэтага захворвання ў Валожынскім, Капыльскім, Крупскім, Маладзечанскім, Салігорскім, Уздзенскім раёнах, але абстаноўка там ужо больш-менш стабілізавалася.

**— Прагноз — справа няўдзячная. І ўсё ж, Анатоль Іосіфавіч, як, на ваш погляд, будуць “паводзіць” сябе гэтыя захворванні далей? Інакш кажучы, ці прагназіруецца ўспышка хвароб?**

— Аптымізму наконт гэтага ў мяне засталося нямнога. Агульнавядома, што калі ёсць паўнацэнны, збалансаваны па пажыўных якасцях рацыён, адпаведны мікраклімат утрымання жывёлы, то, безумоўна, захворванняў паменшае. Але чаго грэх таіць, сёлетняя зімоўка будзе няпростая. Кармоў назапашана мала, а на саломе доўга не працягнеш...

**— Напэўна, цяжка і вашай службе?**

— Як і ўсім. На набыццё абсталявання, медыкаментаў патрэбны грошы. І вялікія. А мы — бюджэтнікі, і гэтым усё сказана. Але мы не сядзім склаўшы рукі. Нарыхтоўваем лячэбна-дыетычныя прэпараты. Ужо назапашана 31 тона. Не думаем здавацца. Да цяжкасцей нам не прывыкаць.

*Ірына АНДРЭЕВА.*

Крымінал

## ГУМАВАЕ “СЕНА”

Вартаўнік — асоба суверэнная, недатыкальная і матэрыяльна адказная. Работнікі вытворчага аб"яднання «Мінскводаканал» А.Федарынчык і А.Паляшчук разумелі гэта. Таму з вартаўніком склада камерцыйнага ўпраўлення матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і камплектацыі «Захадгазкамплект», што знаходзіцца ў Мінскім раёне, абыішліся даволі гуманна. Праўда, начны візіт на гэты склад яны нанеслі не дзеля забаўкі. Была ў візіцёраў канкрэтная мэта: што-небудзь узяць, каб потым каму-небудзь загнаць і атрымаць адпаведны навар.

Але блудзіць у начной цемры па незнаёмай тэрыторыі — усё роўна што хадзіць па пакоі з завязанымі вачыма. Вось тут і трапіўся Федарынчыку і Паляшчуку пад рукі вартаўнік. Не трацячы дарэмна часу, яны адразу ж падступілі да яго з роспытам, дзе і што тут знаходзіцца. Вартаўнік, каб не нагнятаць абстаноўку і тым самым не рызыкаваць асабістым здароўем, сказаў, што маецца гума да легкавых аўтамабіляў. Гэта задаволіла начных «турыстаў» і яны адпусцілі яго з мірам. Папярэдне, праўда, надзеўшы яму на твар дзіцячыя калготкі і закрыўшы ў вагончыку.

Вартаўнік не зманіў. На складзе аўтагумы аказалася ў дастатку. Аднак на плячах яе не вынесці. Патрэбен транспарт. Ён якраз знаходзіўся побач. Але з аўтамабілем «ГАЗ» не атрымалася — машына была без акумулятара. Падвёў і «МАЗ». На шчасце, спраўным аказаўся трактар «МТЗ». Пагрузіўшы на прычэп больш сотні камплектаў гумы, Федарынчык і Паляшчук адбылі ў начную цемру.

Здабычу схавалі на адной з воданапорных свідравін. Праз некаторы час Федарынчык папрасіў у свайго кіраўніцтва трактар, каб прывезці сена. Інакш кажучы — аўтагуму са свідравіны, каб прадаць. Якраз на гэтым «сене» і затрымалі яго работнікі міліцыі. Падлічылі, што «сена» ў прычэпе было на 6 мільёнаў 433 тысячы рублёў (па цэнах дэнамінацыі грошай). Суд таксама вынес свой вердыкт — Федарынчык і Паляшчук атрымалі чатыры гады пазбаўлення волі.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ, намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.*

## ШТО НІ ПАКУПНІК, ТО ХАРАКТАР

У Дзяржынскім райспажыўтаварыстве стала традыцыяй штогод праводзіць конкурсы прадаўцоў-кансультантаў, касіраў. І сёлета таксама праведзена гэтае мерапрыемства. Камісіі аказалася не так проста вызначыць пераможцу. Удзельнікі конкурсу прадэманстравалі высокія прафесійныя навыкі. І ўсё ж імёны лепшых былі названы. Гэта Алена Кулік, Алена Лазарэвіч, Ірына Суднік, Ірына Чарнігава.

Наогул, складана працаваць у сістэме гандлю. Розныя пакупнікі — розныя характары. Але работнікі Дзяржынскага райспажыўтаварыства робяць усё магчымае, каб наведвальнікі былі задаволены. Гэта можна сказаць пра працоўныя калектывы Станькаўскага, Путчынскага, Негарэльскага прадпрыемстваў рознічнага гандлю і калектыў аб"яднання грамадскага харчавання.

Тут сочаць за дысцыплінай, санітарным станам, графікам работы.

*Н.КУЛЕШ, аргінструктар Дзяржынскага райспажыўтаварыства.*

■ Статыстыка сведчыць

## НА АСАБЛІВА ВАЖНЫХ – ПРАКОЛ

**У вобласці ёсць шэраг будоўляў, якія лічацца аб"ектамі першараднай дзяржаўнай важнасці, увядзенне іх палепшыць сацыяльна-эканамічнае становішча Міншчыны. Як жа там ідуць справы?**

Смалявіцкі доследна-эксперыментальны завод “Дармаш”. Тут расшыраюцца магутнасці па выпуску каткоў і асфальтаўкладчыкаў. Падрадчык — упраўленне № 25 трэста “Мінскпрамбуд”. На будоўлі выдзелены пускавы комплекс — вытворчыя плошчы яго складаюць 1,95 тысячы квадратных метраў. Іх планавалася здаць летась у чацвёртым квартале. Дрэнная арганізацыя працы сарвала ўвод. На сённяшні дзень ёсць усё неабходнае для заканчэння работ у верасні. Апошняе слова — за будаўнікамі.

Сёлета на трэці квартал запланавана здача вытворчых карпусоў на Стаўбцоўскім філіяле Мінскага маторнага завода, для чаго выдзелена 4,96 мільярда рублёў /у новым вылічэнні/. За паўгода выканана 59 працэнтаў будаўніча-мантажных работ. Спецыялісты БУ-14 канцэрна “Мінскбуд” не зніжаюць тэмпаў: хапае і рабочых, і тэхнікі. Вось толькі заказчыку неабходна адшукаць 3,5 мільярда рублёў на будматэрыялы. Пытанне: дзе іх узяць?

Ламаюць над ім галаву і на Маладзечанскім заводзе металаканструкцый. Праўда, ім трэба менш — 800 мільёнаў. Толькі тады ўвойдзе ў строй дзеючых лінія па афарбоўцы 80 тысяч тон ацынкаванага ліста, якая ўзводзіцца звыш сямі гадоў. Зараз манціруецца абсталяванне і пракладваецца цеплатраса ад прадпрыемства да кацельні.

Незайздросны лёс і камбіната хлебапрадуктаў у гарадскім пасёлку Негарэлае. Работы на ім пачаліся з красавіка 1989 года, па стану на першае ліпеня іх выканалі напалавіну. З-за нізкай будаўнічай гатоўнасці немагчыма пачынаць мантаж на аб"ектах, звязаных з прыёмам зерня з чыгункі і аўтатранспарту, на аўта- і чыгуначных вагах, на ачышчальных збудаваннях і цеплатрасе. Не гатовы да мантажу зернесушылка і помпавыя станцыі.

На працягу ўсяго будаўніцтва ПМК-113 трэста “Будмеханізацыя” /генпадрадчык/ не забяспечвае неабходнай колькасці рабочых, у сувязі з чым зрываюцца тэрміны прадастаўлення фронту работ субпадрадчыкам. На думку заказчыка, з-за нізкай арганізацыі працы генпадрадчык не ў стане асвоіць на сёлетні год аб"ёмы, што прывядзе да зрыву пускавога комплексу — элеватара на 54 тоны аднаразовага захоўвання і зернесушылкі.

Як бы дарэчы былі і новыя магутнасці па перапрацоўцы 1,2 тысячы тон буракоў у суткі на Гарадзейскім цукровым камбінаце. Улічваючы пастаянны рост інфляцыі, выдзеленых сродкаў не хопіць для выканання намечаных аб"ёмаў работ. Да таго ж пастаўшчыкі абсталявання — прадпрыемствы Барнаула, Растова, Адэсы, Вільнюса. Таму даводзіцца купляць расійскія рублі і валюту для аплаты. У выніку нясвоечасова пералічваюцца падрадчыку грошы на набыццё будматэрыялаў. Стрымліваецца ход будаўніцтва, а з-за перанасычанасці тэрыторыі інжынернымі сеткамі і камунікацыямі земляныя работы даводзіцца выконваць уручную.

Недаравальны для заказчыкаў і падрадчыкаў зрыў тэрмінаў уводу ў эксплуатацыю ўстаноў для самых сацыяльна не абароненых слаёў насельніцтва — дзяцей, старых і інвалідаў. Так, на некалькі гадоў перавышаны нарматыўны тэрмін будаўніцтва дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў на 480 месц у вёсцы Куль Стаўбцоўскага раёна. Асноўная прычына — няхватка фінансавых сродкаў.

Вялікае адставанне дапушчана на спецдоме-інтэрнаце на 50 месц для псіхічнахворых у Капыльскім раёне, школы-інтэрната ў Слуцку для сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, і г.д.

Такім чынам, практычна на ўсіх важнейшых будоўлях вобласці работы ў бліжэйшы час могуць спыніцца. Аб прычынах мы ўжо гаварылі. Думаецца, нікому не трэба даказваць, як патрэбны нам гэтыя аб"екты. І неабходна зрабіць усё магчымае, каб яны былі ўведзены ў запланаваныя тэрміны. Нельга дапусціць, каб на асабліва важных будоўлях панавала цішыня.

*Ларыса БАРАНОЎСКАЯ, супрацоўнік аблстатупраўлення.*

## МОВАЙ РОДНАЙ МАЦІ

Пяць гадоў працуе ў раёне Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. У яго ўваходзяць многія настаўнікі, культработнікі, урачы, ІТР прамысловых прадпрыемстваў, служачыя ўстаноў... Актывістамі таварыства шмат зроблена па адраджэнню не толькі роднай мовы, але і народных традыцый у галіне культуры, быту, сямейных урачыстасцей.

“Ніткі” беларускасці на Нясвіжчыне цягнуцца з далёкай мінуўшчыны. Тут гартавалася нацыянальная свядомасць Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Адама Багдановіча (бацькі Максіма Багдановіча), Уладзіслава Сыракомлі. У Нясвіжы вядомы асветнік і філосаф Сымон Будны выдаў на беларускай мове свой знакаміты “Катэхізіс”. Помнік гэтаму патрыёту-гуманісту ўзвышаецца ў скверы, насупраць таго будынка, дзе некалі была друкарня. Памяць народная не зарастае быллём.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

